№ 30 (3975)

17 красавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВІЗІТ

## Чакаем...

Прэзідэнт Індыі **Пранаб Мукерджы** хоча бліжэйшым часам наведаць Беларусь. Пра гэта ён паведаміў міністру замежных спраў Беларусі Уладзіміру Макею, які знаходзіцца з афіцыйным візітам у Індыі.

Мукерджы адзначыў сяброўскі характар адносін Індыі і Беларусі. Як паведамляе прэс-служба МЗС, бакі пагадзіліся, што ёсць вялікі патэнцыял ўзаемадзеяння паміж краінамі ў гандлёва-эканамічнай сферы.

Таксама Уладзімір Макей правёў перамовы з міністрам замежных спраў Індыі Сушмой Свараджам.

У беларускую дэлегацыю ў Індыі акрамя дыпламатаў увайшлі таксама кіраўнікі БелАЗа, Мінскага трактарнага завода, Беларускай калійнай кампаніі.

МЕРКАВАННЕ



## Ля разбітага карыта...

*Да прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, якія плануецца правесці не пазней за 15 лістапада, застаецца 7 месяцаў. Паводле слоў старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, дакладную дату выбараў прызначаць у сярэдзіне жніўня.*
*З чым да іх прыйшла апазіцыя?*
*"На гэты час мы маем разбітае карыта, да якога беларуская апазіцыя ішла ўжо даўно", – кажа кіраўнік Рады беларускай інтэлігенцыі рэжысёр Уладзімір Колас.*

– Гэта нават тактыкай нельга назваць. Самі паводзіны, стаўленне да справы і з'яўляюцца прычынай той паразы, якая ўжо наканавана. Безадказнае стаўленне, эгаістычнае, кан'юнктурнае, якое, безумоўна, не можа даць вынікаў, бо перамога ніколі і не ставілася за мэту. Ставіліся нейкія іншыя другасныя задачы, а справа гэтага не даруе. Ні ў якай галіне – у тым ліку і ў палітыцы.

**– На ваш погляд, чаму так і не адбыўся Кангрэс дэмакратычных сіл?**

– Менавата з-за асабістых амбіцый. А магчыма, і з-за таго, што ёсць заангажаваныя людзі, якія выконваюць пэўныя заданні па зрыве любых спроб кансалідацыі апазіцыі. Не выключаю, што ёсць і такія.

**– Рух "За Свабоду" заявіў, што не будзе браць удзел у выбарах, лідар кампаніі "Гавары праўду!" Уладзімір Някляеў склаў свае паўнамоцтвы. Гэта страта для беларускай дэмакратычнай грамадскасці напярэдадні выбараў?**

– Гэта было б стратай, калі б былі нейкія надзеі, шанцы і папярэднія дзеянні, якія давалі б падставы для гэтых надзей. Але, паколькі ўсімі ўдзельнікамі працэсу не былі зроблены захады і намаганні для кансалідацыі і збірання ўсіх сіл у кулак, што з'яўлялася адзінай умовай для нейкай барацьбы, то і сыход буйных палітычных фігур не можа ні дадаць нешта станоўчае, ні пагоршыць сітуацыю. Бо пагаршаць больш – ужо няма куды. Таму трэба чакаць новага пакалення палітыкаў, якія будуць здольныя да кансалідацыі і да таго, каб зрабіць высновы з гэтага негатыўнага досведу. Безумоўна, усё можна спісваць на рэжым і казаць, што, маўляў, мы ведалі, што прайграем, але добра папрацавалі. Але наўрад ці гэта ўжо спрацуе і дадасць сімпатый з боку грамадства да тых, хто гэтым займаецца.

**– Уладзімір Някляеў сказаў, што цягнік далей не ідзе, таму ён пакідае гэты цягнік...**

– Ён мог так сказаць яшчэ напярэдадні мінулай кампаніі. Раней апазіцыя таксама казала, што без кансалідацыі перамога немагчыма, але тым не менш усе разбегліся ў розныя бакі. Ужо тады было зразумела, што справа прайграна, і ўжо тады можна было зрабіць такую заяву.

**– Ці ўнясе інтрыгу ў выбарчую кампанію кандыдатура Таццяны Караткевіч?**

– Пра гэта некаторыя кажуць. Жанчына-кандыдат, гламурныя фота... Але не думаю, што на гэта нехта будзе глядзець сур'ёзна. Слушна ўжо казалі, што справа не ў тым, жанчына будзе балатавацца ці мужчына. Справа ў тым багажы і ў той пазіцыі, з якой пачынаецца кампанія. Калі б Караткевіч сур'ёзна абралі патэнцыяльным кандыдатам, то працаваць над яе іміджам і раскруткай трэба было даўным-даўно. Пачынаць з нізкага старту – абсалютна бесперспектыўна. І, калі Таццяна Караткевіч збіралася ісці на выбары, рупіцца пра гэта ёй трэба было не зараз. Не чыталі мы ніякіх яе артыкулаў, не ведаем за ёй ніякіх учынкаў. Ведаем, што гэта добры чалавек, – і ўсё. Але добры чалавек – гэта, як кажуць, не прафесія. Таму, шчыра кажучы, мала хто верыць у некія сур'ёзныя шанцы Таццяны Караткевіч.

**– Да выбараў застаецца 7 месяцаў. Ці можа, на ваш погляд, за гэты час апазіцыя ўсё ж такі яшчэ нешта вартае зрабіць?**

– Гэтая апазіцыя – не можа. Выратаваць сітуацыю ўвогуле можа толькі з'яўленне нейкіх новых сіл. Але на гэта таксама цяжка спадзявацца, бо сённяшняя апазіцыя зрабіла ўсё, каб не падрыхтаваць сабе змену. І гэта таксама факт. Тым не менш заўсёды трэба спадзявацца на лепшае...

**Кастусь ЗАБЛОЦКІ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## Без лідара

На тэрмінова сабраным рэспубліканскім савеце "Гавары праўду!" абраць новага лідара кампаніі так і не здолелі. Але "з разуменнем паставіліся да рашэння Уладзіміра Някляева спыніць сваю дзейнасць ва ўсіх апазіцыйных структурах" і абралі яшчэ аднаго намесніка кіраўніка кампаніі – Лідзію Сагідуліну.

– Пытанне лідарства ў кампаніі "Гавары праўду!" занадта сакральнае, каб можна было абраць новага лідара вузкім колам, – патлумачыла журналістам імаверны кандыдат у прэзідэнты ад "Гавары праўду!" Таццяна Караткевіч. – Бласлаўляла нашу каманду на працу каманда волатаў – лідараў нацыянальнага адраджэння. Гэта Рыгор Барадулін і Генадзь Грушавы, Святлана Навумава і Уладзімір Някляеў. Велічнасць гэтых людзей сфарміравала лідарства ў нашай кампаніі як сакральнае. А сакральнае патрабуе асаблівай павагі, асаблівага стаўлення.

У выніку было вырашана, што новага лідара будуць абіраць на з'ездзе, які пройдзе 30 мая.

ДОСЛОВНО

*Андрей ЕГОРОВ,*
*директор Центра европейской трансформации:*



**«Белорусским властям следует тщательнее следить за деятельностью пророссийских групп на территории Беларуси, которые разворачивают свою деятельность, в том числе и при содействии российского посольства. Сегодня такие группировки представляют куда большую угрозу, чем национально ориентированная оппозиция и прозападные организации гражданского общества, которые находятся на стороне Беларуси, белорусской идентичности, белорусского суверенитета".**

SOS!

## Кожнае чацвёртае беларускае прадпрыемства з'яўляецца стратным

Толькі за першыя два месяцы года страты беларускіх прадпрыемстваў выраслі да больш як 12 трыльёнаў рублёў.

Гэта ўжо ў 3 разы больш, чым было за той жа леташні перыяд. І пакуль прасвету не бачна. Сітуацыя не паляпшаецца, а, наадварот, пагаршаецца.

БЕСПРЕЦЕДЕНТНО

## Дворцовый бунт



Впервые за всю историю британской монархии в королевском дворце пройдет забастовка.

Крупный скандал разгорается в крупнейшем и старейшем жилом замке мира. Служащие Виндзорского замка приняли решение провести бессрочную забастовку с 30 апреля.

Как сообщает профсоюз работников общественных и коммерческих служб, в котором состоят 120 из 200 служащих замка, протестующие недовольны маленькой зарплатой и тем, что им приходится бесплатно выполнять дополнительные функции, не входящие в круг их профессиональных обязанностей.

Например, служащим приходится проводить экскурсионные туры по замку, а также оказывать при необходимости первую помощь посетителям или выступать в качестве переводчиков. На время акции протеста служащие откажутся выполнять эти функции.

Отметим, что замок привлекает около 1,1 миллиона посетителей в год, оставляющих примерно 17 миллионов фунтов стерлингов ежегодно. Эти деньги напрямую идут на содержание королевских дворцов. Помимо прочего, королева Елизавета II получает около 300 миллионов фунтов стерлингов ежегодно в виде государственных субсидий.

В британской прессе уже звучат обвинения в адрес королевы в том, что она «презрительно относится к своим сотрудникам». Также высказываются призывы передать полномочия по управлению дворцами правительству, а не королевской семье, чтобы служащие дворцов «могли напрямую взаимодействовать с теми, кто им платит».

Примечательно, что забастовка придется как раз на начало масштабной предвыборной кампании: 7 мая должно состояться голосование в парламент Великобритании.

БЕЛАРУСЬ–ЕЎРОПА

## Вітаем, спадар еўракамісар!



Учора пачаўся двухдзённы візіт у Беларусь камісара па еўрапейскай палітыцы суседства і перамовах аб пашырэнні ЕС **Ёханеса Хана.**

Візіт праходзіць у межах наведвання еўракамісарам Ханам усіх шасці краін "Усходняга партнёрства" напярэдадні Рыжскага саміту, які адбудзецца 21–22 мая.

Галоўная мэта візіту – вывучыць магчымасці паляпшэння адносін паміж Еўрасаюзам і Беларуссю.

У праграме візіту – сустрэчы як з прадстаўнікамі афіцыйных структур, так і з апазіцыйнымі палітыкамі, а таксама сваякамі палітзняволеных.

Апошнім разам еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыцы добрасуседства наведваў Беларусь у 2010 годзе. **Штэфан Фюле,** які тады займаў гэтую пасаду, двойчы прылятаў у Мінск – у ліпені і лістападзе. А потым прэзідэнцкія выбары паставілі крыж на кароткай палітычнай адлізе. Што будзе зараз – пытанне адкрытае.

ТЫМ ЧАСАМ

Беларусь пакуль не атрымлівала запрашэнне на Рыжскі саміт "Усходняга партнёрства". Пра гэта ўчора на брыфінгу паведаміў прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў **Дзмітрый Міронччык.**

У той жа час нагадаем, што падчас візіту ў Беларусь у лютым гэтага года міністр замежных спраў Латвіі Эдгар Рынкевіч заявіў, што Латвія хоча, каб на саміце "ўсе партнёры былі прадстаўлены на самым высокім узроўні". У той жа час кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка быў аб'яўлены ў Еўропе персонай нон-грата. Аднак да мая сітуацыя можа змяніцца. І хто ад Беларусі паедзе на саміт у Рыгу – не вядома.

НАДВОР'Е

## Цяпло спазняецца

Выхадныя і пачатак наступнага тыдня, паводле прагнозаў сіноптыкаў, будуць халодныя. Спецыялісты Белгідраметцэнтра паведамляюць, што такі тэмпературны рэжым хутчэй адпавядае канцу сакавіка, чым красавіку.

У суботу і нядзелю 18 і 19 красавіка чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Ноччу і днём магчымы кароткачасовыя дажджы, месцамі – мокры снег. Але надвор'е стане менш ветраным.

У дзённы час у суботу 18 красавіка тэмпература паветра будзе складаць ад +5 да + 10°С.

У нядзелю 19 красавіка днём чакаецца ад +3 да +9°С.

У панядзелак 20 красавіка тэрыторыя Беларусі апынецца пад купалам цыклону, які будзе перамяшчацца з поўначы Скандынаўскага паўвострава на ўсход нашай дзяржавы. Таму чакаецца воблачнае надвор'е, дажджы і мокры снег. У начны час слупок тэрмометра будзе паказваць ад -2 да +3°С, днём – ад +3 да +9°С.

ПАЛІТВЯЗНІ

## Міколу Статкевіча чакае новы суд

Пра гэта паведаміла жонка былога кандыдата ў прэзідэнты Марына Адамовіч.

*«Адміністрацыя калоніі вырашыла, што ён настолькі «не стаў на шлях выпраўлення» і «мае намер весці злачынны лад жыцця», што яго далейшае ўтрыманне ў гэтай высокамаральнай установе немагчымае»,* – горка іранізуе Марына.

Паводле яе слоў, 9 красавіка нейкая камісія ў шклоўскай калоніі вырашыла адправіць Статкевіча на турэмны рэжым да канца тэрміну зняволення. Таму мусіць адбыцца суд, дата якога невядомая.

Нагадаем, Міколу Статкевічу 58 гадоў. Ён – падпалкоўнік запасу, былы кіраўнік ГА "Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў" і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Быў кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года. Затрыманы 19 снежня 2010-га пасля акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў. Быў абвінавачаны ў арганізацыі масавых беспарадкаў і ўдзеле ў іх. 26 траўня 2011 года асуджаны на шэсць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" прызнала Міколу Статкевіча вязнем сумлення. Раней у шклоўскай калоніі ён ужо прызнаваўся злосным парушальнікам і адпраўляўся судом у магілёўскую турму.

Цяпер гісторыя паўтараецца. Паводле звестак Марыны Адамовіч, у Міколы Статкевіча ўжо 13 спагнанняў, з якіх 10 – за «адмову ад працы».

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Ён нарадзіўся ў 1900 годзе

У мінулым нумары "Народнай Волі" надрукаваны вялікі артыкул кандыдата геолага-мінералагічных навук Р.Зінавай-Сярмяжкі ў сувязі са 115-годдзем Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага.

На жаль, у арыгінале ліста аўтара выпадкова ўказана няправільная дата нараджэння славутага сына Беларусі. Удакладняем: Г.І.Гарэцкі нарадзіўся ў 1900 годзе.

Прыносім прабачэнне чытачам.

**Рэдакцыя.**

**У сувязі з выхаднымі і Радаўніцай наступны нумар «Народнай Волі» выйдзе ў чацверг 23 красавіка.**

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Пожалейте белорусов, господин Абламейко!

Ректор БГУ Сергей Абламейко не так давно заявил, что считает необходимым повысить плату за обучение для белорусских студентов, но снизить ее для россиян. Мол, в России обвалился рубль, цена диплома в российских вузах резко упала и белорусские высшие учебные заведения не выдерживают конкуренции. Руководство БГУ, чтобы не потерять студентов, уже сделало россиянам 10-процентную скидку. А вот белорусским студентам плату повысят на 25–30 процентов.

Я хочу спросить у ректора Абламейко: это справедливо? В Беларуси что, не случилось обвала национальной валюты? Не заморозили зарплаты? Мне кажется, все знают, что ведущие предприятия страны сократили рабочие недели, многие заводы отправляют сотрудников в вынужденные отпуска. А если родители сидят без работы, как им платить за обучение детей? Вы скажете, что студентам надо самостоятельно искать деньги на свою учебу, идти подрабатывать, как это принято во всем цивилизованном мире? Так ведь у нас как все построено: чем престижнее университет, тем он дороже. При этом чем выше статус учебного заведения, тем строже требования к посещаемости и успеваемости, за пропуски могут даже отчислить, но расписание зачастую составлено так, что в понедельник занятия начинаются в 8.00, во вторник – в 11.00, в среду – в 14.00. То есть найти подработку студенту-очнику зачастую невозможно. Почему на все эти обстоятельства никто не обращает внимания?

Почему своим родным, белорусским, студентам вузы не делают скидки, но находят средства, чтобы помочь россиянам? Это как называется? Демонстрация заботы о чужих детях за счет своих?

Из чего складывается стоимость обучения в Беларуси? Чем руководствуется вуз, когда формирует цену? Почему, например, стоимость обучения на факультете международных отношений в БГУ значительно выше, чем на химическом, хотя с экономической точки зрения должно быть наоборот, потому что химия – это лаборатории с оборудованием, реактивы, а при изучении гуманитарных наук таких затрат нет?..

Чиновники уверяют, что при формировании цен вузы никакой отсебятины не допускают и руководствуются постановлением Совета министров, где четко сформулированы критерии, по которым формируется плата за обучение. Основная статья расходов – это заработная плата профессорско-преподавательского состава. Часть средств уходит на оплату коммунальных услуг, на обновление материально-технической базы вуза, из студенческого кармана оплачивают телефон, интернет, учебники, сборники, методички.

Все эти объяснения лично у меня вызывают большие сомнения. Но даже если так. Возьмем, к примеру, студентов-пятикурсников того же БГУ. После зимней сессии будущие юристы, журналисты, физики, химики и т.д. пришли в стены родного вуза только на прошлой неделе. В январе сдавали сессию, в феврале ушли на каникулы, отдохнули две недели и отправились на преддипломную практику: разлетелись по госучреждениям, предприятиям, судам и редакциям в разные города страны. Как минимум два месяца преподаватели не читали им лекции, не проводили семинары, БГУ не оплачивал электроэнергию, "потребляемую" пятикурсниками в аудиториях, не тратил средства на закупку новых учебников (в наших вузах вообще стало нормой, что студенты сами заботятся о приобретении учебных пособий). Но оплату (последний взнос в году) университет выставил копеечка в копеечку: 4 миллиона 986 тысяч (например, для без пяти минут юристов и международников). Хотя, казалось бы, за эти месяцы пятикурсников вообще можно было освободить от оплаты. Тем более на фоне такой заботы администрации о студентах из России. Но у господина Абламейко и его помощников, видимо, другая логика: зачем делать скидку, если человек поставлен в безвыходное положение: не заплатит – вылетит из университета? Какой сумасшедший на пятом курсе решится на такой нелогичный поступок: за четыре с половиной года потратить столько средств на учебу, перед самым финишем не заплатить и остаться без диплома?! И родители всячески ищут деньги, влезают в долги, берут кредиты...

Вообще, к учебному процессу в наших университетах накопилось много вопросов. Качество образования уже давно вызывает тревогу не только у независимых экспертов. Руководители предприятий, небольших фирм жалуются на то, что большинство вузов выпускает совершенно неподготовленных специалистов, что необходимо немало времени, чтобы их переучить, вырастить квалифицированных работников. Беспокойство начали проявлять даже чиновники высокого ранга, те, которые еще недавно утверждали, что наше образование – лучшее в мире. При этом цена диплома растет каждый год. В Белорусском государственном медуниверситете год обучения уже стоит почти 20 миллионов, а на стоматологическом факультете – 22 миллиона 980 тысяч. Не намного меньшие суммы к оплате выставляются на некоторых факультетах БГУ и Белорусского государственного университета информатики и радиоэлектроники, к 20 миллионам приближается плата за обучение в Академии искусств, Белорусском национальном техническом университете. Доходит до абсурда! 23 миллиона 220 тысяч теперь стоит год обучения... в среднем специальном учебном заведении: такие ценники недавно выставила первокурсникам Минская государственная гимназия-колледж искусств. Причем поступали сюда дети с расчетом на иную сумму – 15 миллионов 600 тысяч по договору на 1 августа 2014 года, но учебный год еще не закончился, а оплата уже увеличилась на 7,6 (!) миллиона.

Но, оказывается, и это не предел. Уже в ближайшем будущем со студентов будут брать еще больше денег. Но только с белорусских. Не исключено, что иностранцам, которые платят валютой, сделают скидку. Для россиян в БГУ скидка составить аж 15 процентов.

Государство обязало вузы зарабатывать деньги, и они это делают, я бы сказала, наглым образом. Но любой наглости есть предел.

